ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (10) студзень 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



# МУЗЫКА – ГЭТА РЭЧ БОСКАЯ

**Перыяд Божага Нараджэння – цудоўны час. Бо менавіта на працягу гэтых дзён перажываецца шмат радасці. Вядома, што святкаванне прышэсця Збаўцы да нас, да людзей, прыняцце Ім нашай чалавечай натуры ўзрушае сэрца кожнага верніка.**

**■ с. Марына Брылёнак**

Менавіта ў гэты, поўны радасці перыяд, 4 студзеня 2012 г., Мёры, як і штогод, сабралі ўдзельнікаў з розных парафій Віцебскай дыяцэзіі на конкурс калядных спеваў ”Зорка Бэтлеема”. Усяго было дзесяць груп: з Глыбокага, Мёраў, Шаркаўшчыны, Варапаева, Ахрэмаўцаў, Ёдаў-Барадзенічаў, Удзела, Дзеркаўшчыны, Паставаў і Віцебска.

Удзельнікі мелі розны ўзрост – ад самых маленькіх да студэнцкай моладзі.

Конкурсная праграма змянялася забавамі і прыгожым, вясёлым спевам гуртоў. У гэтым годзе вельмі адметнай была прысутнасць у складзе журы Піта Паўлава (гурт “PETE-PAFF”) і асабістага сакратара Апостальскага Нунцыя ў Беларусі кс. Вячаслава Пялінка. Падчас выступлення дзяцей пад радаснае “брава” з’явіўся і сам біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін з цікавымі гасцямі, сярод якіх быў дырэктар пастаральнага цэнтра з Мінска кс. Эдмунд Друзд. Дарэчы, ён якраз святкаваў свой дзень нараджэння. Ад імя арганізатараў і ўдзельнікаў “Зоркі Бэтлеемскай” кс. дырэктара шчыра павіншавалі з такой нагоды, а наймалодшая з удзельніц уручыла яму кветкі.

Сам фестываль праходзіў у атмасферы радасці. Адбылося шмат цікавых выступленняў, з якіх кожнае было па-свойму прыгожае і вясёлае. Вельмі яскрава, паводле меркавання журы, у гэтым годзе выступіла група моладзі з Глыбокага, якую падрыхтавала с. Таццяна Данч. Маладыя людзі не толькі парадавалі ўсіх цудоўным спевам, але і танцамі. Асабіста кс. біскуп Уладзіслаў Блін скіраваў да ўдзельнікаў словы шчырай падзякі за тое, што яны ёсць у парафіях, за іх талент і радасць, якімі дзеляцца з іншымі.

Пасля конкурснай праграмы ўсіх чакала вельмі прыемная неспадзяванка – канцэрт гурта “PETE-PAFF”. Шмат эмоцый прынеслі спевы гэтага гурта, тым больш, што многія ўпершыню змаглі пабачыць сапраўдныя беларускія народныя інструменты і, канешне ж, пачуць іх.

На заканчэнне былі ўручаныя дыпломы і ўзнагароды. Перад гэтым кс. Вячаслаў Пялінак сказаў, што менавіта на гэтай сцэне можна было ўбачыць сапраўдных дзяцей. Бо нічто не рабіў, як гэта зараз звычайна ёсць, з дзесяцігадовай дзяўчынкі дваццацігадовую. Прызавыя месцы занялі групы з Глыбокага, Ахрэмаўцаў, Дзеркаўшчыны, Паставаў, Шаркаўшчыны. Спонсарамі прызоў выступілі кс. біскуп Уладзіслаў Блін, кс. Павел Самсонаў і, як заўсёды, пробашч мёрскай парафіі кс. Кшыштаф Менкіна.

А што думаюць гледачы і самі ўдзельнікі пра конкурс ”Зорка Бэтлеему”? Некаторыя з іх далі вельмі цікавыя і простыя адказы:

“Уражанні самыя пазітыўныя. Прысутнічаў на конкурсе першы раз. Адчувалася атмасфера ўзаемнай любові і радасці, якая перадавалася, я думаю, усім. На маю думку, менавіта на гэтай сцэне нараджаюцца новыя таленты, якія могуць з цягам часу стаць сапраўднымі майстрамі. Вельмі добра, што ёсць такія мерапрыемствы.” (Алесь Дземідовіч, гурт “PETE-PAFF”), Мінск;

“Я прысутнічаў на гэтым фестывалі ўжо чацвёрты раз. На маю думку, было лепш, чым летась. У гэтым годзе былі запрошаныя знакамітыя госці, што прынесла таксама шмат радасці. Магу сказаць, што час чакання не быў марны!” (Вячаслаў Дзямітка, Браслаў);

“Першы раз на фестываль прыехаў сем гадоў таму, быў тады ўдзельнікам. Зараз гляджу, як ён развіваецца з кожным годам і толькі радуюся. З’яўляюцца новыя твары, і нават больш дзетак, а гэта сведчыць пра нашую будучыню, пра тое, што Касцёл у нашай дыяцэзіі развіваецца і жыве.” (брат Яўген Хаданёнак MIC);

“Удзельнічаю не першы раз у гэтым фестывалі. Не прымаю ўдзелу ў конкурсе, але праслаўляю Бога сваім талентам. Мне вельмі тут падабаецца, бо можна ўбачыць шмат моладзі з розных парафій, пазнаёміцца. Таксама, гледзячы на выступленні іншых, можна ўзяць штосьці новага для сябе.” (Іна Стрыгаловіч, Варапаева).

Так і мінуў яшчэ адзін дзень радаснага перажывання перыяду Божага Нараджэння. Мастацкі кіраўнік гурта “PETE-PAFF” Піт Паўлаў сказаў: “Музыка – гэта рэч Боская”. Няхай жа больш будзе гэтай музыкі ў нашым жыцці, каб яно штораз рабілася больш Боскім.

**Новы год у Берліне**
*стар. 2*

**Інтэрв'ю**
Апостальскі нунцый Клаўдыа Гуджэроці адказвае на пытанні «Каталіцкага Весніка» стар. 4

**Бягомль**
Пра акцыю міласэрнасці чытайце на стар. 3

**Далёкія**
У парафіі выйшаў ліст да парафіянаў. стар. 2

**Браслаў**
Семінар для моладзі. стар. 3

# У Новы год з малітвай



Беларуская моладзь на сустрэчы Тэзэ

**Хлопцы і дзяўчаты з Віцебскай дыяцэзіі прынялі ўдзел у 34-ай сустрэчы еўрапейскай моладзі "Тэзэ" ў Берліне.**

■ с. Святлана Грэйць

З 28 снежня па 1 студзеня 2012 года ў сталіцы Германіі, Берліне, адбылася 34-ая сустрэча еўрапейскай моладзі "Тэзэ". 160 парафій, пераважна пратэстанцкіх, якія прадстаўляюць у асноўным канфесіі Германіі, прымалі пілігрымаў, што прыехалі, каб правесці час у малітве, пазнаць культуру Нямеччыны. Да арганізацыі гэтай сустрэчы далучыліся таксама людзі добрай волі, якія не належаць ні да адной з канфесій.

Усяго было каля 35 тыс. удзельнікаў з 54 краін свету. Каля 700 чалавек з Беларусі таксама прыехалі, каб удзельнічаць у малітвах з моладдзю розных краін. Пілігрымку з Віцебскай дыяцэзіі, што налічвала каля 80 чалавек, узначаліў кс. Юрый Барок.

Асноўная тэма сустрэчы – "Шлях да новай салідарнасці паміж людзьмі". На 15 семінарах, якія адбыліся на "Тэзэ", арганізатары прапаноўвалі задумацца над якасцю веры ў сучасным грамадстве, над будучыняй Еўропы, над "новай салідарнасцю" ў эканоміцы, над жыццём у веры.

Акрамя духоўных практыкаванняў кожны ўдзельнік меў магчымасць наведаць гістарычныя месцы ў Берліне, зрабіць здымкі прыгожых пабудоў, пазнаць культуру, традыцыі нямецкага народа. З нецярпеннем пілігрымы чакалі, калі будзе абвешчана краіна, у якой пройдзе 35-я сустрэча еўрапейскай моладзі "Тэзэ". На адной з вячэрніх малітваў яны даведаліся, што чарговы Новы год можна сустрэць у духу малітвы ў сталіцы Італіі – Рыме.

Сустрэчу Новага года ў Берліне падрыхтавалі парафіяне. У іх і жыла кожная з груп. А 23 гадзіне ўсе сабраліся на супольную малітву, якая доўжылася да поўначы, а пазней глядзелі прыхожы феерверк. Навагодняя сустрэча завяршылася прадстаўленнем, на якім моладзь магла расказаць пра свае краіны, заспяваць песню.

Апошні дзень у Берліне закончыўся супольнай малітвай у парафіі і абедам. Поўныя ўражанняў, радасці і ўзмоцненыя духоўна нашыя пілігрымы вярнуліся ў Беларусь.

Удзельнікі сустрэчы еўрапейскай моладзі "Тэзэ" падзяліліся з чытачамі "Каталіцкага Весніка" сваімі ўражаннямі.

**Юлія Дубіна:**

– Звычайна я рыхтуюся да Новага года дома, з бацькамі і сябрамі. Сёлета ўсё было інакш. Мы наведалі шмат месцаў у Берліне, пабывалі ў Патсдаме, пазнаёміліся з моладдзю іншых краін. На малітвах адчувалася еднасць людзей, незалежна ад іх узросту або канфесіі. Малітва каля крыжа пасля набажэнства "Тэзэ" застанецца надоўга ў маёй памяці.

**Святлана Трапук:**

– Берлін спадабаўся мне тым, што ён спакойны. Жыхары горада вельмі шчырыя, добрыя і адкрытыя сэрцам. На "Тэзэ" была ўпершыню, але гэта стане маёй навагодняй традыцыяй. Неверагодная еднасць шматлікіх народаў, розныя мовы з усіх бакоў. Сапраўды, Бог становіцца яшчэ бліжэй. Ужо збіраюся ў Рым!

**Алеся Пілімон:**

– Берлін – вялікі, цікавы і вельмі разнастайны горад, у якім побач жывуць традыцыі і памкненні ў будучыню. Магу адзначыць, што найбольш адбітак у памяці пакінуў не горад, а "Тэзэ"! Малітва, якая нясе нейкі таямнічы супакой і радасць у сэрца. А таксама гэты велізарны натоўп моладзі з розных куткоў свету, розных нацыянальнасцей і канфесій. Людзі, якія аб'яднаныя адной ідэяй, мэтай, аб'яднаныя Езусам.

**** "Тэзэ" – хрысціянская супольнасць манахаў, якая арганізоўвае малітоўныя сустрэчы для моладзі з усяго свету. Назва супольнасці паходзіць ад вёскі Тэзэ, якая знаходзіцца ў Францыі.*

*"Ідзіце, навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына, і Святога Духа, навучаючы іх выконваць усё, што Я сказаў вам". (Мц. 28, 19-20).*

# РАЗАМ ДА БОГА

**8 студзеня 2012 года ў касцёле Св. Станіслава ў вёсцы Далёкія Браслаўскага раёна, як і ў іншых парафіях, святкавалі Хрост Госпада. Аднак у нас гэтая падзея рыхтавалася загадзя. Ёй папярэднічаў ліст да ўсіх парафіян "Разам да Бога".**

■ Ірына Высоцкая

Свята пачалося з напаміну пра тое, што Боскае жыццё нараджаецца ў нас з моманту Святога Хросту. Бо Святы Хрост з'яўляецца падмуркам усяго хрысціянскага жыцця. Вернікі пачулі інфармацыю, якая, здаецца, усім добра вядомая і ў той жа час – многімі забытая: чаму Каталіцкі Касцёл хрысціць дзяцей; хто можа быць хроснымі бацькамі; як адбываецца абрад хросту... Яшчэ раз усім прысутным нагадалі, што падчас хросту атрымліваем Духа Святога, які з гэтага моманту жыве ў нас, каб, ідучы праз жыццё, мы заўсёды жадалі і ўмелі рабіць дабро. Таму, узгадваючы хрост Езуса, кожны павінен успомніць свой уласны хрост, праз які Бог вызваліў нас ад граху, адрадзіў з вады і Духа Святога і намасціў нас хрызмам збаўлення, каб далучыць да Божага народа, дапамагчы вытрываць у еднасці з Хрыстом і такім чынам дасягнуць жыцця вечнага.

Святая Імша была хвалюючай для многіх. Перш чым чытаць супольную малітву "Ойча наш", усе прысутныя ўзяліся за рукі, каб быў агульны круг. Гэта аб'яднала і дзяцей, і дарослых. Дадому ўсе вярталіся з белымі чыстымі лістамі паперы, на якіх ксёндз пробашч Анджэй прапанаваў напісаць на адным баку падзяку Богу, а на другім – свае грахі. Сапраўды, некалі мы павінны задумацца пра гэтыя два моманты, якія суправаджаюць нашае жыццё, проста паразмаўляць са сваім сумленнем.

Людзей на Святой Імшы было значна больш, чым у гэты ж дзень у мінулыя гады. Малітву вернікаў чыталі сталыя людзі, якія не адмовілі ў нашай просьбе. Вельмі прыемна, што сярод іх быў мужчына. Кожны панёс дадому ваду і соль, што асвячаліся падчас Святой Імшы.

Хочацца спадзявацца, што ў гэты дзень парафіяне яшчэ больш усвядомілі, што яны з'яўляюцца Містычным Целам Хрыста, што чалавек ёсць дзіцём Бога. А гэта прывядзе нас да ўзаемапавагі і паразумення.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Пад знакам міласэрнасці і любові

**Цудоўнае свята падарылі дзецям з абмежаванымі магчымасцямі валанцёры парафіяльнага Карытас Глыбоцкага касцёла Святой Тройцы.**

■ Рэгіна Марцынкевіч

Гэта была другая сустрэча. Першая адбылася напрыканцы лістапада. Тады сабралася 14 дзетак ва ўзросце ад 4 да 14 гадоў. На развітанне іх бацькі, апекуны, сваякі прасілі валанцёраў Карытас зрабіць такія спатканні традыцыйнымі, бо яны вельмі патрэбныя дзеткам, якім Бог даў хваробу.

На гэты раз, як і абяцалі, валанцёры запрасілі дарагіх гасцей перад Новым годам на сустрэчу са Святым Мікалаем, які дапамагае верыць у дабро і цуды, вучыць быць спагадлівымі і ўважлівымі, нясе людзям радасць і душэўны спакой.

Святы Мікалай прыйшоў у цэнтр пазашкольнай работы, дзе ладзілася дабрачынная ёлка для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. Прыйшоў не з пустымі рукамі. Але перш чым раздаць падарункі, ён жыва распытваў дзяцей пра справы, вучобу, сяброў, разам з імі і іх бацькамі вадзіў вакол ёлкі карагод. Добрага чараўніка ў гэтыя святочныя дні шчыра віталі дзеткі, якія знаходзяцца ў сацыяльным прытулку, а таксама дзеці нашай парафіі.

Каб, завітаўшы ў госці, Святы Мікалай мог парадаваць усіх падарункамі, незадоўга да Божага Нараджэння ў Глыбоцкай парафіі праводзілася дабрачынная акцыя "Святы Мікалай – дзецям". У касцёле каля абраза Езуса Міласэрнага стаяў куфар, дзе можна было пакінуць прысмакі, фрукты, цацкі. Скарбонка неаднойчы запаўнялася да самага верху. Гэта сведчыла пра тое, што ў глыбачан шчырыя і добрыя сэрцы, што яны ўмеюць спагадаць людзям, якім патрэбна асаблівая ўвага і дапамога, не толькі на словах.

"Для нас, валанцёраў, вялікае задавальненне – прынесці радасць іншаму чалавеку, – гаворыць дырэктар парафіяльнага Карытас Глыбоцкага касцёла Святой Тройцы Іна Вайцяховіч. – Але ўсе нашы праекты немагчымыя без фінансавай падтрымкі. Шчаслівыя тым, што Глыбоччына багатая на міласэрных, спагадлівых людзей. Дзякуючы добрым людзям і на гэты раз мы змаглі парадаваць дзецям сапраўднае свята. Шчыра парадаваў той факт, што дзейнасць парафіяльнага Карытас зацікавіла мясцовую ўладу. Старшыня райвыканкама Алег Віктаравіч Морхат ухваліў нашу работу з дзецьмі, якія маюць абмежаваныя магчымасці".

А на дабрачыннай ёлцы прысутнічала намеснік старшыні райвыканкама Галіна Уладзіміраўна Унуковіч. Разам з дзецьмі яна спявала, танцавала, вадзіла карагод, і з твару яе не сыходзіла прыемная ўсмешка. Радаснымі ўсмешкамі свяціліся і твары дзяцей, іх бацькоў, апекуноў. А што можа быць важнейшае для валанцёраў, як не магчымасць дарыць людзям шчаслівыя імгненні жыцця!

## Вялікая сям'я – сапраўднае багацце

Мне пашчасціла нарадзіцца ў шматдзетнай каталіцкай сям'і. Я – позняе дзіця. Нарадзілася, калі ў бацькоў ужо было тры дачкі і сын. Старэйшыя сёстры і брат няньчылі мяне, песцілі. Праз 3 гады з'явілася яшчэ адна сястра, і ўжо мне давялося дапамагаць маме яе дагледзець. Калі мне споўнілася 7 гадоў, памерла наша 16-гадовая сястра. Гэта быў страшэнны ўдар для сям'і. Жыццё шматдзетнай сям'і нялёгкае, але ў ёй вучышся бескарыслівай любові, ахвярнасці. Мае бацькі і самі былі з шматдзетных сем'яў, і родных у нас багата. Многіх ужо няма на гэтым свеце, але ўсім знаходзіцца месца ў маім сэрцы.

З удзячнасцю ўспамінаю татавых старэйшых брата і сястру, якія выраслі яго, замяніўшы памерлых бацькоў. Яны не стварылі сваіх сем'яў і потым увесь час жылі разам з намі. Дзесяць душ было ў нашай сямейцы. 25 гадоў прайшло, як памёр тата. 18 снежня 2011 года на 87-ым годзе жыцця спынілася сэрца нашай любай матулі. Бацькі перадалі нам у спадчыну найвялікшы дар – веру. А светлую памяць пра іх нясуць на жыцці 5 дзяцей, 11 унукаў і 8 праўнукаў. І лік нашчадкаў яшчэ памножыцца. Ці ж гэта не сапраўднае багацце?

*Алена Пажога*

## Аплатковае спатканне ў Ахрэмаўцах

**Перад Святам Божага Нараджэння 22 снежня ў Ахрэмаўскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа адбылося аплатковае спатканне ўдзельнікаў моладзевай музычнай групы.**

Для большасці маладых людзей такая сустрэча была першай і неспадзяванай. Аднак ідэя зрабіць сюрпрыз вельмі спадабалася моладзі. Калі дзяўчаты і хлопцы прыйшлі ў касцёл на рэпетыцыю спеваў, святар запрасіў усіх у пакой, дзе звычайна адбываліся розныя парафіяльныя імпрэзы.

Шлях да гэтага месца ішоў праз касцёл і калідор з выключаным святлом, а пасля ўсе апынуліся каля святочна ўпрыгожанага стала з аплаткамі. Дапаўнялі таямнічую атмасферу і свечкі, і трэск дроў у каміне .

«Самае прыемнае і нечаканае – момант, калі мы пайшлі ў той пакой: было нават страшнавата. Чаго чакаць?» – дзеліцца ўражаннямі Аляксандра.

Падчас сустрэчы пробашч парафіі кс. Ігнат Санюта звярнуў увагу маладых вернікаў на тое, што парафіяльная супольнасць з'яўляецца своеасаблівай сям'ёй у Хрысце. Як у вігілійны вечар мы дзелімся цеплынёй і любоўю з блізкімі людзьмі, так і тут маем магчымасць адчуць адзінства і аддаць частку свайго сэрца з кавалкам аплатка таму, хто побач.

«Асабіста для мяне была прыемнай гэтая атмасфера дабрыні і ўзаемапаразумення, адчуванне таго, што я на самай справе не адна, што побач шмат людзей, якім я патрэбна», – кажа парафіянка Яна.

Пасля ламання аплаткам адбылася рэпетыцыя калядных спеваў. Скончылася сустрэча гарбатай з тортам і вясёлымі сяброўскімі размовамі.

*Аня Антонава*

## ТВАЯ СЯМ'Я ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ЦЯБЕ

Мы жывём у час кантрастаў. З аднаго боку, трыумфуюць разводы, павярхоўнасць у адносінах, здрада, грамадзянскія шлюбы. З другога, з'яўляецца ўсё больш сужэнстваў, якія імкнуцца да жыцця згодна з хрысціянскімі традыцыямі. Яны паказваюць, што хрысціянскі шлюб не страціў свайго сэнсу. Добрая сям'я – якая абапіраецца на Бога, вучыцца любові, узаемапаразуменню, цярпліваму прабачэнню на прыкладзе Святой Сям'і. Такіх цудоўных сем'яў вернікаў у Глыбокім нямала.

У глыбоцкай парафіі Святой Тройцы старанна рыхтаваліся да свята Святой Сям'і. Ліст да прафіянаў "Крыніца жыцця" запрашаў прыйсці ўсіх сямейнікаў на Святую Імшу разам, каб у супольнай малітве даручыць свае сем'і адзінаму Богу і прасіць благаслаўлення. Хатні касцёл дапамагае лепш пачуць адно аднаго, напаўняе жаданнем глыбей пазнаць Бога, мацней любіць Яго.

Як зазначыў падчас гаміліі айцец Станіслаў Памыкала, для сям'і патрэбная перш за ўсё духоўнасць. Вельмі важна выгадаваць і правільна выхаваць дзяцей, навучыць любіць Бога, бацькоў, сябе. Бацькі павінны заўсёды працаваць над сабой, бо жыць трэба так, каб перад сужэнцам, перад сабой, а потым перад Богам можна было адказаць, што кожны зрабіў у сваім жыцці. Асабістае і сямейнае жыццё трэба будаваць на аснове Божага Слова, Божых запаведзяў.

Сярод прынесеных падчас Святой Імшы дароў былі белая лілія – як сімвал дзявочай чысціні; хлеб – як плён цяжкай працы рук нашых бацькоў і дзядоў; заручальныя пярсцёнкі – як сімвал сужэнскага і сямейнага жыцця.

У канцы Святой Імшы ўсе разам прачыталі малітву аб благаслаўленні для сям'і.

Атмасферу свята падтрымала канцэртная праграма. Пранікнёна чытала свае вершы Ганна Пяткевіч, душэўна спяваў песні Браніслаў Грамакоўскі.

Потым свята доўжылася дома на супольнай вячэры, дзе кожны дзяліўся сваімі пажаданнямі і выказваў падзяку ўсім членам сям'і.

*Людміла Сінкевіч*

## Рабі дабро бліжняму!

Закончыўся Адвэнт – час чакання светлага свята Нараджэння Пана. Нас усіх яднае святло Бэтлеемскай Зоркі, міласць Божая да кожнага, бо ў кожным чалавеку жыве Бог.

У нашай парафіі многа цудоўных, адданых Божай справе вернікаў, якія шмат зрабілі і робяць для Касцёла. З нагоды Божага Нараджэння хачу павіншаваць іх і пажадаць ім здароўя і Божых ласкаў.

Гэта Мар'ян Бурмбліс, які ў далёкія 80-ыя гады мінулага веку ездзіў нават у Маскву, каб дабіцца адкрыцця нашага касцёла, а сёння робіць вельмі многае для парафіі сваёй актыўнасцю і шчырай верай.

Хочацца адзначыць нашых працаўніц-актывістак, якія заўсёды ў належным стане падтрымліваюць парадак і чысціню ў святыні: Чаславу Дзядовец, Марыю Грусмес, Францішку Богуш, Леанціну Нікіціну, Тэрэсу Праліч, Ванду Дзеравянка, Марыю Пашкоўскую.

Ды хіба можна пералічыць усіх, хто на працягу многіх гадоў захоўвае наш касцёл такім прыгожым! Нізкі паклон і шчырая падзяка гэтым сумленным людзям!

Таксама віншую Францішку Каравацкую, Марыю Кончыц і Аліну Латыш, якія шмат зрабілі для ўзрастання маёй свядомасці і маёй веры, якія служаць прыкладам для мяне.

Са святам Божага Нараджэння віншую нашых святароў і сясцёр Міласэрнасці, нашых скаўтаў, якія прывезлі да нас святло Бэтлеемскага агню, усіх вернікаў парафіі.

*З павагай, Аліцыя Трафімовіч, парафія св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ у Паставах*

### Хвала Хрысту!

*Віншуем айца Томаша Юнчыка са святам Нараджэння Хрыстова і з Новым годам!*

*Шчыра жадаем Вам, айцец Томаш, моцнага здароўя, Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай.*

*Дзякуем Вам за абвяшчэнне Слова Божага, за адданую працу. Усяго Вам найлепшага ва ўсіх Вашых добрых справах і пачынаннях, наш паважаны айцец Томаш!*

*Удзячныя вернікі парафіі Св. Яна Хрысціцеля ў в. Ваўкалаты*

# Зрабіць свет лепшым...

**кс. Віктар Місевіч,**
*тэкст і фота*

**Свята Божага Нараджэння прыпамінае нам праміласэрнасць, спагаду і любоў. Езус нарадзіўся ў хляве, таму што ў людзей не хапіла любові, каб Яго прыняць як Чалавека.**



На другі дзень Свята парафія Хрыста Валадара ў Бягомлі арганізавала дабрачынную акцыю ў мясцовым доме-інтэрнаце. Па запрашэнні прыехаў цэлы аўтобус барысаўскай моладзі. Хлопцы і дзяўчаты падрыхтавалі Батлейку для маленькіх гледачоў. Адметнасцю было тое, што Маленькага Езуса ў спектаклі іграла дзяўчынка Сара з барысаўскай парафіі, а Марыю і Юзафа – яе бацькі. Выхаванцы інтэрната з захапленнем глядзелі на касцюмы акцёраў і з удзячнасцю пляскалі ў далоні. Пасля Батлейкі ўсе ахвотныя мелі магчымасць прыняць удзел у гульнях і карагодах вакол прыгожай ялінкі.

Падарункі, якія атрымалі дзеці, былі падрыхтаваныя на сродкі вернікаў з бягомльскай і барысаўскай парафій. Разам з моладдзю ў Бягомль прыехалі а. Міхал Цвячкоўскі MIC, а таксама сёстры-эўхарысткі: с. Таццяна Гмыза і с. Наталля Раманчук. Завяршылася сустрэча супольнай малітвай і благаслаўленнем.

Дырэктар школы-інтэрната ў Бягомлі Валерый Пятровіч Міхайлоўскі ад імя дзяцей і педагагічнага калектыву падзякаваў выступоўцам і запрасіў іх наведваць дзетак часцей.

Езус сваім нараджэннем падказвае нам: "Не бойся рабіць дабро! Чым больш радасці ты падорыш іншаму чалавеку, тым лепшы стане вакол цябе свет."

# СЕМІНАР "Я СЯРОД ІНШЫХ ЛЮДЗЕЙ"

**З 9 па11 снежня ў Браславе адбыўся семінар для аніматараў груп, тэма якога "Я сярод іншых людзей". У сустрэчы прынялі ўдзел студэнты з Полацка, Наваполацка і Віцебска.**

**с. Святлана Грэйць**

Распачалася праца св. Імшой, якую цэлебраваў кс. Тадэвуш Дабравольскі. На працягу семінара моладзь мела супольныя малітвы, адарацыю, разважанне над словам Божым.

Арганізатарамі сустрэчы былі кс. Тадэвуш Дабравольскі, с. Наталля, псіхолаг Людміла Нячай. Праца праходзіла ў форме псіхалагічных заняткаў з элементамі трэнінгу. Падчас семінара маладыя людзі даведаліся больш пра паняцце "групы", пра асаблівасці яе структуры, пра характар адносін у групе паміж людзьмі розных сацыяльных статусаў. Можна таксама было даведацца, якую сацыяльную ролю ў групе будзе выконваць кожны з удзельнікаў семінара. На занятках выкарыстоўваліся розныя інтэрактыўныя метады працы: мэтанакіраваныя дыскусіі, гульні і практыкаванні, арыентаваныя на згуртаванне групы. Таксама выконваліся разнастайныя творчыя заданні: усе разам стваралі групавыя казкі, малявалі партрэт групы, упрыгожвалі добрымі якасцямі ў форме лісточкаў Дрэва групы. Кожны ахвотны мог паказаць свае здольнасці кіраўніка, самастойна праводзячы якое-небудзь практыкаванне з групай або гульню.

Падчас сустрэчы юнакі і дзяўчаты расказвалі пра тое, хто з людзей у іх жыцці з'яўляецца прыкладам, аўтарытэтам. Цікава адзначыць, што былі названыя не толькі людзі, вядомыя ва ўсім свеце, але і блізкія, сябры.

Семінар для аніматараў закончыўся смачным абедам, а яго ўдзельнікі вярнуліся ў свае парафіі, поўныя радасных уражанняў ад супольнай сустрэчы, узмоцненыя духоўна і гатовыя несці Хрыста сваім сябрам.



**ПАДЗЯКА АД РЭДАКЦЫІ**

Дарагія сябры, вось і прайшлі Калядныя Святы. Мы ўсе пераступілі парог Новага года. Якім ён будзе? Мы не ведаем. Але ўсе нашыя мары і надзеі давяраем Пану Богу.

Хочацца выказаць удзячнасць усім нашым чытачам за ўвагу да газеты і зычлівасць. Многія даслалі нам святочныя віншаванні і пажаданні поспеху ў працы. Вялікі вам дзякуй! Дзякуй таксама ахвярадаўцам. Некаторыя вернікі ўжо другі і трэці раз памагаюць нам выдаваць "Каталіцкі Веснік". Гэта вельмі істотная дапамога. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Свае ахвяраванні нам даслалі:**
Галіна Глушкевіч, в. Віржы; Вацлава Бельская, г. Наваполацк; Яніна Грыбок, г. Мінск; Арлова Л. І., г. Дуброўна; Алена Кушаль, в. Асінаўшчына; Генавэфа Бартко, в. Абруб; Алена Пажога, в. Абруб; сп. Муляронак, г. Глыбокае; сп. Пяткевіч, в. Канстанцінава; Прэзідыюм Маці Божай Падхорнай, г. Глыбокае; Юзэфа Афанасенка, г. Полацк.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў, мы можам друкаваць газету.

Дарагія сябры, памажыце нам абвяшчаць Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў альбо ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №1(10) студзень 2012 г.

# АРЦЫБІСКУП КЛАЎДЫА ГУДЖЭРОЦІ:

# У ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ Я АДЧУЎ АТМАСФЕРУ МАЛАДОСЦІ



*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*

**Папа Бэнэдыкт XVI прызначыў у Беларусь новага нунцыя арцыбіскупа Клаўдыа Гуджэроці. Нунцый – гэта чалавек, які прадстаўляе Апостальскую Сталіцу ў адносінах з дзяржаўнымі ўладамі і сваёй асобай яднае мясцовы Касцёл з Касцёлам Паўсюдным. Думаю, чытачам будзе цікава больш даведацца пра арцыбіскупа Клаўдыа Гуджэроці. "Каталіцкі Веснік" звярнуўся да яго з некалькімі пытаннямі.**

**– Ваша Эксцэленцыя, ці наведвалі Вы Беларусь раней, перад сваім прызначэннем на пасаду Апостальскага нунцыя?**

– Не, ніколі. Мне даводзілася бываць у іншых краінах Усходняй Еўропы, але, на жаль, у Беларусі я раней не быў.

**– Тады цікава будзе даведацца пра вашыя ўражанні аб Беларусі. Скажыце, што Вам кінулася ў вочы ў краіне і ў Касцёле, калі Вы сюды прыехалі?**

– Першае, што мяне закранула, – гэта, безумоўна, дабрыня людзей, прастата іх сэрца і глыбіня пачуццяў. Павінен сказаць, што гэта для мяне была вялікая навука, бо вельмі часта думаюць, што, калі хтосьці з'яўляецца глыбокім чалавекам, – ён павінен шмат размаўляць і быць хітрым. У Беларусі я ўбачыў, што быць чалавекам глыбокім – не азначае быць чалавекам хітрым і мець паток слоў. Гэтая дабрыня, якую я заўважыў у беларусаў, мае, напэўна, жаданне быць больш камунікацыйнай і радаснай. Але гістарычныя абставіны і сённяшнія цяжкасці ў Беларусі, бачу, не спрыяюць таму, каб гэтая дабрыня стала больш камунікацыйнай.

Што тычыцца Касцёла, мяне неверагодна ўразіла праца, якая была выкананая тут пасля падзення Савецкага Саюза. Гэта можна ставіць за прыклад, як супольнасць можа адрадзіцца і стаць зноў жывой за 20 гадоў. А 20 гадоў – гэта зусім нічога. Думаю, у беларускім народзе ёсць вялікае пачуццё супольнасці. Няма перабольшанага індывідуалізму. І яшчэ, у сэрцах людзей захавалася вера.

**– Вы ўжо крыху адказалі на маё наступнае пытанне. І ўсё-такі хацеў бы запытацца. Якія ў Вас ўражанні ад наведвання Віцебскай дыяцэзіі?**

– Ведаеце, Віцебская дыяцэзія – гэта вялікая шахта, дзе ўсё знаходзіцца ў будове. Там шмат энтузіязму, каб будаваць. Заўважце, будаваць не Вавілонскую вежу, каб выпрабоўваць Бога, але каб Яму служыць. У Віцебскай дыяцэзіі адчуваецца ўздзел маладых, я проста адчуў гэтую атмасферу маладосці.

**– Многім чытачам нашай газеты будзе цікава даведацца, што думае Папа пра Беларусь?**

– На гэтае пытанне я магу адказаць вельмі дакладна, бо ён мне пра гэта казаў. Папа спасцігае Беларусь, як старажытнуюхрысціянскуюзямлю, дзе чалавечыя каштоўнасці яшчэ пакуль вельмі жывучыя. Для яго вялікі боль – гэта тое, што Беларусь сёння ізаляваная ў свеце. Таму перад маім выездам сюды ён мне даў настаўленні. Незалежна ад палітычных пытанняў Каталіцкі Касцёл можа толькі любіць народ і не ізаляваць яго, а таксама ніякім чынам не спрычыняцца да яго ізаляцыі. Трэба, наадварот, шукаць і знаходзіць масты братэрства, чалавечнасці, культуры. Праз іх можна было б убачыць і ацаніць уклад Беларусі ў скарбніцу ўсяго свету. А таксама дазволіць Беларусі сказаць сваё слова, бо толькі яна ў стане гэта сказаць і ніхто больш за яе гэта не зробіць. Так сказаў Папа.

**– На што Вы збіраецеся звярнуць асаблівую ўвагу падчас працы ў Беларусі?**

– Я збіраюся слухаць. Слухаць, таму што мы заўсёды гатовыя размаўляць і вучыць іншых. Але, калі мы найперш не зразумеем голас сэрца, нашыя словы застаюцца проста шумам. Таму, лічу, трэба слухаць голас сэрца беларусаў. А потым пабачым.

**– Вы скончылі факультэт усходніх моваў і літаратуры і працавалі ў Апостальскай Сталіцы ў Кангрэгацыі па справах усходніх Касцёлаў. Што Вас так захапіла на Усходзе? Мова? Традыцыі? Гісторыя?**

– Вельмі цікавае пытанне. На працягу многіх гадоў я прыйшоў да высновы, што няма чагосьці такога, як Усход. Ёсць столькі ўсходаў! Вельмі часта сэрца заходняга чалавека – гэта ўсход. Таксама нейкая частка сэрца ўсходніх людзей з'яўляецца заходняй. Цяжка акрэсліць, што такое Усход. Людзі лічаць, што Усход – гэта Кітай і Японія. А яшчэ ёсць Індыя, Егіпет і, напрыклад, Украіна. Але што агульнага паміж гэтымі культурамі?

Можна, канешне, знайсці нешта агульнае, напрыклад, у спосабе выражэння веры. Там ёсць вельмі вялікае пачуццё грахоўнасці і адначасова вялікая надзея, што Бог пераможа зло. Лепш маўчаць наконт Бога і не тлумачыць Яго. Уся чалавечнасць выражаецца ў кульце: святло, рух, водар, рухі цела. У літургіі молімся, ужываючы шмат паэтычнасці. Больш іканаграфіі, чым ідэі. Больш харызмы, экзістэнцыяльнасці, чым права. Больш жыццёвасці.

**– Было б цікава даведацца ад Вас пра Каталіцкі Касцёл у Грузіі, Арменіі і Азербайджане – у краінах, дзе Вы працавалі.**

– Гэтае пытанне нялёгкае. Калі мы кажам пра Каўказ, мы думаем, што гэта нейкая маналітная рэчаіснасць. Мяркую, можна знайсці маналітны Каўказ у глыбокай дахрысціянскай і даісламскай старажытнасці. Але сёння на Паўднёвым Каўказе ёсць розныя краіны: хрысціянскія Арменія і Грузія і мусульманскі Азербайджан. Вядома, пры ўсёй іх рознасці можна заўважыць падобныя рысы гэтых народаў, якія выходзяць з агульнага дагістарычнага базісу. Гэта пачуццё гонару, праяўленне і перажыванне справядлівасці, моцнае пачуццё прыналежнасці да культуры і да зямлі, сям'я і ўсё, што з ёй звязана. Гэтыя асноўныя рысы мы знойдзем на ўсім Каўказе.

Калі мы кажам пра становішча там Каталіцкага Касцёла сёння, то варта зазначыць, што яно не залежыць ад антычных рысаў. На сітуацыю Касцёла ўплываюць абставіны, якія сталі існаваць на працягу апошніх, скажам, трохсот гадоў.

Каталіцкі Касцёл прысутны там у розных абрадах. У Грузіі – пераважна гэта лацінскі рыт, у Арменіі – выключна ўсходні абрад. У Азербайджане католікі – гэта невялікая група людзей – выхадцы з іншых савецкіх рэспублік плюс працаўнікі-замежнікі з нафтавай прамысловасці.

Неабходна сказаць, што пасля распаду Савецкага Саюза ўсе католікі ў згаданых краінах знаходзіліся ў вельмі няпростай сітуацыі. Зрэшты, і сёння Каталіцкім супольнасцям на Каўказе нялёгка. Касцёл заслабы, каб ставіць нейкія глыбокія пытанні па інкультурацыі. Хаця тут выключэннем будзе Арменія, дзе практыкуецца ўсходні каталіцкі абрад. Ён па сваёй сутнасці сцісла з'яднаны з культурнай спадчынай армянскага народа і нічым не адрозніваецца ад абраду Армянскай Апостальскай Царквы. Але і там ёсць праблемы, бо, каб мець адзіную ідэнтычнасць, недастаткова маліцца аднолькава. У той час, як усцяж замала сардэчнасці і адкрытасці да Касцёла з боку дамінуючых канфесій на Каўказе. Варта было б улічыць таксама палітычныя дзеянні, якія маюць уплыў на сітуацыю з Касцёлам.

**– Раскажыце пра сваіх родных. Ці ёсць у Вас браты і сёстры?**

– Я адзіны сын у маці. І шчаслівы, што мае бацькі дажылі да сталага ўзросту. Два гады таму памёр мой тата. А мама яшчэ жыве. Таму і мае кантакты з Радзімай вельмі жывыя і частыя, бо ў мяне там мама.

**– А як наконт Вашай любімай кнігі, фільма і малітвы?**

– Я ніколі не задумваўся пра гэта. Думаю, варта назваць "Сто гадоў адзіноты" Маркеса. Гэта адзін з найбольш знакамітых раманаў сучаснасці. Ёсць яшчэ кніга, якая мяне ўразіла і да якой я часта звяртаюся, – гэта твор армянскага пісьменніка XI стагоддзя Грыгора Нарэкацi "Кніга песняў жальбы".

Фільм… Шчыра кажучы, я ніколі не захапляўся фільмамі. Шмат было фільмаў, якія прымушалі плакаць. Таксама былі і такія, якія ўнутрана ўзрушылі. Былі і такія, якія дастаткова цяжка глядзець, але яны зацікавілі мяне тым, што расказвалі пра месцы, адкуль я родам. Напрыклад, фільм "Смерць у Венецыі" паводле кнігі Томаса Мана.

Калі казаць пра малітву, гэтае пытанне вельмі цікавае. Я маю два захапленні. У мяне вялікая зацікаўленасць да старажытных тэкстаў малітваў лацінскага абраду. Часта паглыбляю гэтыя тэксты. Усведамляю сабе, што іх складана было б перакласці на любую сучасную мову. І таксама вельмі люблю малітвы Усходняга Касцёла, асабліва Акафіст. Яго я лічу адным з найбольшых дасягненняў рэлігійнай літаратуры. Чытаю гэтыя малітвы на грэчаскай мове. Таму што пераклады мне здаюцца нейкай здрадай.

**– А як Вы любіце праводзіць вольны час? Ці ёсць у вас хобі?**

– Пакуль жыве мая мама, найлепшае хобі – гэта наведаць яе. Бо калі б яна ведала, што я ў Італіі і не зайшоў, для яе гэта было б вялікім цярпеннем. У Італіі я вельмі люблю падарожнічаць і чытаць. І, канешне, люблю з замілаваннем назіраць за пейзажамі. Дзесяць гадоў таму я б, адказваючы на гэтае пытанне, сказаў, што люблю наведваць сваіх сяброў. Аднак гэтыя 10 гадоў далёкага побыту паслужылі прычынай таго, што стала іх цяжка часта адведваць. Адначасова ёсць патрэба ў маўчанні і хочацца цішыні.

**– Што б вы хацелі пажадаць чытачам нашай газеты?**

– Я б хацеў пажадаць чытачам, каб яны, чытаючы газету, мелі вялікую ўдзячнасць да тых, хто дае ім шанец чытаць, хто ставарае гэтую газету. Бо гэта мастацтва, і яно патрабуе шмат любові. Трэба любіць тых, для каго ты пішаш. Хачу пажадаць чытачам знайсці нейкую перліну мудрасці на старонках газеты, якая дапаможа ім у цяжкасцях. Можа, хтосьці ў складаную хвіліну ўспомніць напісанае і скажа: "Гэта сапраўды мне дапамагло!"

**– Дзякуй вялікі за размову.**

**Даведка «Каталіцкага Весніка»**

Арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці нарадзіўся 7 кастрычніка 1955 г. у г. Верона, што ў Італіі. Святарскае пасвячэнне атрымаў 29 мая 1982 г.

Скончыў факультэт Усходніх моваў і літаратуры пры Венецыянскім дзяржаўным універсітэце «Cà Foscari», а таксама атрымаў вучоную ступень магістра навукі святой літургіі пры Папскім літургічным інстытуце св. Анзэльма ў Рыме.

У 1985 г. паступіў на служэнне ў Апостальскую Сталіцу ў Кангрэгацыю па справах усходніх Касцёлаў. Да свайго прызначэння Апостальскім Нунцыем у Беларусі нёс служэнне ў Грузіі, Арменіі і Азербайджане.

# АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ НАВЕДАЎ ВІЦЕБСКУЮ ДЫЯЦЭЗІЮ

■ кс. Віктар Місевіч, *тэкст і фота*



**У чацвер, 15 снежня, Віцебскую дыяцэзію наведаў паслаіннік Папы Бэнэдыкта XVI Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці. Адбылося гэта ў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Наваполацку з нагоды дня духоўных сустрэч святароў і манахінь.**

На самым пачатку духавенства Віцебскай дыяцэзіі сабралася ў касцёле, каб праславіць Бога ў Тройцы Адзінага малітвай на брэвярыі. Затым адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і непасрэдна сама Святая Імша. Цэлебраваў яе арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці.

На пачатку Эўхарыстыі шаноўнага госця прывітаў пастыр дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін. "Ваша Эксцэленцыя, шаноўны арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці! Шчыра вітаюць Вас усё духавенства і сёстры законныя Віцебскай дыяцэзіі. Тут працуюць найлепшыя святары і найлепшыя сёстры ў свеце! Мы бязмерна ўдзячныя, што добры Бог паслаў нам такога дарагога госця!" – сказаў біскуп Уладзіслаў.

Святая Імша адпраўлялася на лацінскай мове. Апостальскі Нунцый звярнуўся са словамі гамiлii да прысутных па-італьянску. Перакладаў яго сакратар а. Вячаслаў Пялінак МІС.

Пасланнік Папы нагадаў асобу Св. Яна Хрысціцеля і заахвоціў святароў да шчырасці перад самім сабой. Ён паразважаў над самотнасцю святара і заклікаў не раздзяляць жыццё на публічнае і прыватнае, стараючыся без раздвоенасці быць верным слугой Бога.

Напрыканцы Святой Імшы арцыбіскуп благаславіў прысутных апостальскім бласлаўленнем. Ён сказаў: "Я сёння бласлаўляю вас ад імя Святога Айца Бэнэдыкта XVI". Арцыбіскуп папрасіў святароў передаць гэтае бласлаўленне вернікам у парафіях.

Варта дадаць, што асабліва ўзбагацілі дзень духоўных сустрэч браты ў святарстве Грэка-каталіцкай Царквы на чале з Апостальскім Візітатарам архімандрытам Сяргеем Гаекам. Ён, у сваю чаргу, таксама выступіў і прывітаў Апостальскага Нунцыя.

Пасля абмеркавання арганізацыйных пытанняў пробашч парафіі ксёндз канонік Катэдральнай Капітулы Аляксандр Чайкоўскі запрасіў усіх на пачастунак. Усе мелі магчымасць падзяліцца аплаткай з Нунцыем і біскупам Уладзіславам.

Прыбыццё ў Наваполацк Амбасадара Ватыкана можна параўнаць са з'яўленнем Св. Яна Хрысціцеля, чый голас і прысутнасць былі так неабходныя народу Ізраіля. Гэтаксама ў Віцебскай дыяцэзіі неабходны чалавек, які передае словы і думкі Святога Айца, яднае сваёй асобай партыкулярны Касцёл з Касцёлам Паўсюдным.

Святары і сёстры Віцебскай дыяцэзіі моцна палюбілі арцыбіскупа Клаўдыа Гуджэроці. Яны адразу ацанілі яго гумар, жыццярадаснасць і непадробную ўсмешку.

С. Ганна Тарасёнак: "Мне арцыбіскуп вельмі спадабаўся сваёй непасрэднасцю і адкрытасцю. Ён імпануе радасцю і прастатой."

Кс. Аляксандр Грыцкевіч: "Наш новы нунцый прываблівае сваёй шчырасцю. Але адначасова лёгка заўважыць, што ён чалавек вельмі адукаваны і з глыбокай духоўнасцю."

Кс. Андрэй Кулік: "Бачна, што арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці добра падрыхтаваны, каб працаваць сярод беларусаў. Ён ведае мовы і не мае моўнага бар'еру, што вельмі важна для дыпламата і іерарха такога ўзроўню. Усе мы жадаем яму Божага бласлаўлення ў працы."

Веру, што пасланніка Папы палюбяць і вернікі Віцебскага Касцёла. Тым больш, што ён атрымаў шматлікія запрашэнні не толькі ад біскупа Уладзіслава, але і ад пробашчаў парафій. Арцыбіскуп паабяцаў наведваць паўночную дыяцэзію Беларусі як мага часцей.

## ДЫСК ПРА СВЯТЫ РУЖАНЕЦ




**Выйшаў дыск з канферэнцыямі і казаннямі а. Рамана Шульца, дамініканіна, пра Святы Ружанец.**

Яны былі прамоўленыя святаром падчас сустрэч з моладдзю пры Школе Духоўнай Фармацыі ў Браславе 21-23.10.2011.

Набыўшы гэты дыск, ахвотныя змогуць паслухаць канферэнцыі на тэму:

1. Фон ружанцовай малітвы.
2. Пяць умоваў добрай малітвы.
3. Каментарыі да Апостальскага Ліста.
4. Чатыры абяцанні.
5. Пампейская навэнна.
6. Прыклады дзеяння ружанцовай малітвы.

І таксама казанні:

1. "Я скажу пра гэта Тваёй Маці!"
2. Тры дарогі.
3. Тры формы сэрца.

**Кошт дыска – 5000 рублёў. Замовіць яго можна, звярнуўшыся па тэлефоне: +375295926569 (МТС)**

# ДЗІЦЯЧАЯ БАТЛЕЙКА Ў МЁРАХ

**Пастаноўка Батлейкі – гэта старадаўняя хрысціянская традыцыя ў Беларусі. Многія з нас не ўяўляюць сабе сучаснага жыцця без інтэрнэту, тэлебачання ці кіно. Мы прызвычаіліся да дасягненняў навукі і з прыемнасцю карыстаемся новымі тэхналогіямі. Аднак часам варта звярнуць увагу на тое, як весяліліся і як святкавалі Божае Нараджэнне нашыя продкі. Цудоўны спосаб адпачнуць на Каляды – гэта паглядзець Батлейку.**

■ кс. Віктар Місевіч, *тэкст і фота*

Найбольш цікава, вядома, самім удзельнікам спектакля або бацькам, чые дзеці выступаюць у ролі маленькіх акцёраў. Але і выпадковы глядач не выйдзе з залы расчараваны.

У Мёрах дзеткі з парафіі паказалі гледачам сапраўдны тэатр. У мясцовым Доме культуры яны распавялі гісторыю Нараджэння Божага Сына. Адметна тое, што сцэнарый быў напісаны тут жа, у Мёрах. Гэтаксама, як і прыгожыя касцюмы – аўтарства мясцовай парафіянкі сп-ні Марыны Баговіч. Рэжысёр, якая паставіла з дзеткамі Батлейку, – сп-ня Наталля Гарноўская.

Дзейства адбывалася сярод розных раслін, кветак і грыбоў. Маленькія акцёры добра ўвайшлі ў ролю Ветрыка і прадстаўнікоў жывёльнага свету: Ваўка, Сабачкі і Авечкі. А якая Батлейка без чарцяняці? І гэты герой прысутнічаў на сцэне, паказваючы ў смешнай форме свае адмоўныя якасці: то псуючы скрыпку Гноміку, то проста падманваючы.

Дыялогі герояў былі багата аздобленыя калядкамі, якія, дарэчы, выконваліся пад жывое музычнае суправаджэнне мёрскай моладзі. Усе гледачы захапіліся сольным выкананнем калядкі дзяўчынкай, што выступала ў ролі Найсвяцейшай Марыі Панны.

Падчас спектакля з залы часта чуўся смех дзяцей і дарослых: так натуральна акцёры на сцэне выконвалі свае ролі. Пасля заканчэння Батлейкі выступоўцы былі ўзнагароджаныя шчодрымі апладысментамі. Пробашч парафіі кс. Кшыштаф Мянкіна пачаставаў усіх дзетак-акцёраў салодкімі прысмакамі.



Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №1(10) студзень 2012 г.

# ПРАЦА І ВЕРА

**Праца з'яўляецца важнай каштоўнасцю ў жыцці людзей. Ці можа яна быць не толькі матэрыяльным, але і духоўным багаццем? Ці спрыяе гэтаму вера ў Бога? Менавіта такімі пытаннямі сёння задаюцца вернікі.**

Ірына Грэйць, Юлія Мілашэўская

**Алеся Пілімон, фармацэўт:**

– Хачу сказаць, што прафесія фармацэўта ў кантэксце сённяшняга часу і абставінаў ужо не валанцёрская. На жаль, яна амаль не выконвае сваёй галоўнай мэты: ратаваць людзей і дапамагаць ім, як было на пачатку. Ёсць пагроза хутка ператварыцца ў безэмацыянальную машыну, ахвочую да грошай і карысці, і абыякавую да людзей і іх праблемаў. Найменш за ўсё ў сваім жыцці мне б хацелася стаць такой "машынай". І я ўпэўнена, што толькі з дапамогай веры і малітвы змагу і надалей мець здольнасць зберагчы ў сабе чалавечнасць, любоў да людзей і імкненне не толькі не нашкодзіць, але дапамагчы кожнаму, хто гэтага патрабуе. Таму заўсёды спадзяюся на Божую падтрымку ў сваёй працы.



**Віталь Дзерваноўскі, інжынер-электроншчык:**



– Ранкам, перад уваходам на завод, прашу Бога аб добрым працоўным дні. Часам цяжка размаўляць з супрацоўнікамі пра веру. У кагосьці грошы з'яўляюцца "бажком", у кагосьці аўтамабіль, камп'ютар... А Хрыстус зусім непадобны да тых ідэалаў, якія бачаць перад сабой гэтыя людзі. Я ведаю, што Ён не адвернецца ад мяне і не прыйдзе толькі ў дзень заробку. Ён побач заўсёды. Памятаю позірк аднаго з супрацоўнікаў… Ён убачыў, як я зрабіў знак крыжа перад абедам у сталоўцы. Калі я спытаў, што здарылася, адказ прагучаў: "Нічога". Цяпер мужчына ведае, што я з Богам, а Бог са мною. Спадзяюся, што разам з Езусам мы зможам змяніць чэрствыя сэрцы маіх супрацоўнікаў.

**Дарык Астасевіч, Узброеныя сілы Рэспублікі Беларусь, афіцэр:**



– Маё жыццё было няправільным доўгі час. Раптам з'явілася шмат праблем, звязаных з асабістым жыццём і з працай. І тут здарылася штосьці незвычайнае. Я зрэзаў рукі ў ногі і хуценька пабег у касцёл маліцца… Напэўна, Богу надакучыла глядзець, як я ўсё раблю наадварот. Неўзабаве мяне перавялі на лепшае месца працы. Цяпер кожны дзень адчуваю цуды Пана Бога, адчуваю яго дапамогу. Раскажу цікавы выпадак… Амаль ніколі не гляджу навіны дома. А ў гэты дзень убачыў краем вока вестку па тэлебачанні. Прыйшоў зранку да начальніка, а ён мне расказвае гэтую ж навіну:). Хоць і маленькі выпадак, але я ганаруся, што так зрабіў Бог… Вось прыпомніў і яшчэ адно здарэнне... 6 і 8 снежня вечарам я павінен застацца на працы, а 7-га ўвечары я наведваю школу Хрысціянскага жыцця! З упэўненасцю магу сказаць, што вера мне вельмі дапамагае.

**Валянціна Шабунова, адвакат:**

– Я заўсёды прашу нашага Пана аб падтрымцы ў працы: калі стомленая, калі патрэбна знайсці правільнае рашэнне. Тады, калі выступаю ў судзе з абаранальнай прамовай, заўсёды кажу сабе: "З Богам!". Нормы заканадаўства не заўсёды ідэнтычныя чалавечым і маральным прынцыпам. Кажуць, што закон суровы, але ён Закон. Часам разумееш, што ў пэўнай сітуацыі па справядлівасці павінна быць так, а па законе інакш. І заўсёды Пан Бог дапамагае знайсці правільнае судовае рашэнне. Я не раз упэўнівалася, што для Яго няма нічога немагчымага. Сітуацыя змяняецца, ствараецца цуд. Атрымліваеш такі вынік, якога, шчыра кажучы, не чакаў. Вядома, усё гэта з Божай дапамогай!



**Міхал Віткі, канструктар-механік:**

– На рабочым месцы мы заўсёды праводзім шмат часу, сутыкаючыся з рознымі праблемамі і людзьмі. Для хрысціяніна праца не толькі абавязак, але і дар ад Бога. "Хто не працуе, той не есць", – гэта словы, якія часам выклікаюць у чалавека своеасаблівы бунт. Бо, зразумела, зусім нялёгка ўзяць на сябе цяжар цяжкай працы. Але трэба памятаць, што кожны атрымлівае або талент, або здольнасць да пэўнага занятку. Хрысціянін можа ўбачыць сэнс работы ў тым, што гэта неабходна для агульнага дабра. Таму знайсці правільнае рашэнне без малітвы немагчыма. Дыялог з Богам дапамагае зразумець, што чалавек – добры слуга. Ёсць сітуацыі, калі работнік выконвае складаную працу. Яна здаецца непатрэбнай, але на самай справе вельмі важная і неабходная. Кожная прафесія павінна мець пакліканне. Калі чалавек выконвае працу добрасумленна, яна можа стаць мэтай жыцця, прыносячы пры гэтым асалоду. Без Бога і малітвы праца можа стаць абавязкам, які чалавек выконвае пад прымусам.



Бог працаваў шэсць дзён, ствараючы Свет, а на сёмы дзень адпачываў. Гэты прыклад дапамагае нам зразумець, што праца займае асноўную частку нашага жыцця і дапамагае развівацца чалавеку.

"Кожная рэч мае свой час", – як кажуць словы псалма. Таму кожны з нас, запрашаючы Бога ў сваё жыццё, павінен дзякаваць як за час працы, так і за час адпачынку.

# ЧЕЛОВЕК С ГЛАЗАМИ РЕБЁНКА И ПРОРОКА



**Фото из личного архива автора**

**Казимир Яцыно**, *врач Глубокской ЦРБ*

**Два года назад, 9 января 2010 года, в Минской республиканской кардиохирургической клинике после тяжёлой болезни и операции на сердце на 85-ом году жизни умер ксёндз Йозас Булько.**

Люди, в эти рождественские дни помолитесь за него! 22 года он ежедневно молился за вас, за всех, за живых и мёртвых, за католиков и православных, за всех людей доброй воли. С молитвой выходил к людям, с молитвой встречал, молитвой провожал. Кто не умеет молиться, просто помяните его. Этот человек заслужил вечную память. Незадолго до смерти он говорил, что самой лучшей памятью для него будет молитва. Поплачьте о нём. За 22 года, которые я был рядом с ним, не перечесть, сколько раз видел его плачущим о бедах и грехах наших. Наверное, поэтому его глаза постоянно излучали свет, доброту, любовь.

Хорошо помню, когда появился кс. Булько в Глубоком. Был конец ноября 1988 года. С первой встречи я понял, что передо мной какой-то необычный человек. Запомнились его глаза – глаза ребёнка и пророка. Ксёндз пригласил меня на первую мессу в Мосарский костёл, которая состоялась 1 декабря 1988 года. Плохо помню начало службы, но запомнились слова священника: «Соблюдайте заповеди Божьи и будете счастливы». После службы мы пили чай в маленьком домике, где поселился ксёндз. Расстались друзьями, хотя по возрасту Йозас Булько годился мне в отцы.

Спустя год в Уделовском костёле, восстановленном благодаря усилиям кс. Булько (долгое время здесь был склад минеральных удобрений), состоялось первое после возрождения храма венчание. Священное таинство ксёндз уделил мне и моей жене Валентине. Потом он венчал наших детей, хоронил наших родителей, умел в тяжёлую минуту оказаться рядом, помочь и словом, и молитвой.

Кс. Булько восстал против алкоголизации населения. Нет, он не боролся с алкоголиками, а жалел их, молился за них, приводил в костёл. Пытался искоренить алкоголизм из сознания людей через веру в Бога, через красоту, через воспитание и утверждение трезвости как нормы жизни. Незадолго до своего ухода сказал мне, что жертвует свою жизнь за тех, кто злоупотребляет алкоголем.

Литовец по национальности, он настолько любил Беларусь, что многим стоило бы поучиться у него. Он очень уважал Президента Беларуси, постоянно молился за руководство государства, района. Заботился о подрастающей смене священников. Многие из его учеников сегодня занимают высокие посты в костельной иерархии.

**Литовец по национальности, он настолько любил Беларусь, что многим стоило бы поучиться у него.**

Для моей семьи кс. Булько был духовником. Мы много говорили о смысле жизни, о религии, истории, медицине, о красоте во всех её проявлениях. Это был интереснейший собеседник.

Многие из его размышлений я записывал, запоминал. Вот некоторые из них:

«Будь со всеми в хороших отношениях. Выражайся спокойно и внятно. Всегда выслушивай других, даже тех, кто тебя не понимает или не хочет понимать. Пусть твои планы и достижения станут для тебя источником радости от того, что ты приносишь пользу обществу, своей Родине. Исполняй свои обязанности, даже самые мелкие, со всей ответственностью. Помни, что добро всегда возвращается добром, а хороших людей на земле намного больше, чем плохих. Помни, что ты появился на свет благодаря родителям. Люби их всем сердцем и душою, твоя любовь им больше всего нужна на небесах, молись за них. Не гонись за славой и деньгами. Всё воздастся за дела твои. Прекрасна наша Беларусь. Гордись тем, что живёшь на белорусской земле, заботься о ней и береги свой отчий дом».

Кс. Булько часто лечился у меня в стационаре, был очень неприхотливым пациентом. В последний день пребывания в больнице, видимо, чувствуя, что больше сюда не вернётся, ксёндз благословил меня и всю мою семью.

Похоронили кс. Йозаса Булько на территории костёла Св. Анны в Мосаре, там, где он и завещал. Памятник на могиле священника возведён на собранные людьми средства. Нынешний редактор газеты «Звязда» А. Карлюкевич лет 15 тому написал о Булько, что это ксёндз, который будет жить вечно. И он живёт и будет жить в нашей памяти. Помяните его, помолитесь о нём, приезжайте, обращайтесь со своими бедами и печалями. Он вам поможет. Мосар и Булько по-прежнему ждут всех вас.

# НАРОДЖАНЫЯ ПАД ЗНАКАМ СВЯТОЙ ТРОЙЦЫ



дыякан Даніла Сваяк

Святы Тамаш з Аквіну ў сваёй "Тэалагічнай суме" акрэслівае глупства – калі гэта не звязана з хваробай – як грэх ды наступствы распусты. З пункту гледжання веры, той чалавек глупы, які не верыць у сапраўднага Бога альбо падмяняе праўду веры сваім суб'ектыўным меркаваннем. За апошнія стагоддзі чалавек зрабіў велізарныя крокі ў сваім цывілізацыйным развіцці, але так да канца і не пазбавіўся глупства, якім ёсць вера ў астралагічныя гараскопы, бессэнсоўныя забабоны ды варажбу.

Ходзячы па калядзе, заўважаю, што вельмі часта людзі не вітаюцца праз парог, ставячы свае забабоны вышэй за духоўны аўтарытэт святара. Паказальнымі з'яўляюцца распаўсюджаныя забабоны падчас пахавання нябожчыкаў, калі людзі здзяйсняюць незразумелыя ім чыны, як укладванне ў труну манет ды апалак ад свечак, падліванне гарэлкі на зямлю альбо пакіданне ежы на магіле.

У час Калядаў, бадай, выходзіць на паверхню найбольш гэтага смецця, праяўляючыся ў варажбе, прачытванні розных гараскопаў на будучы год (часцей гараскопа, заснаванага на кітайскім календары), узвядзенне ў культ міфічнага ды чужога для беларускае культуры Дзеда Мароза.

Шматлікія астролагі, экстрасэнсы называюць сваю дзейнасць навуковаю працай, засноўваючы нават школы ды цэнтры па падрыхтоўцы будучых нашчадкаў свайго рамяства. А як павінен глядзець на гэта сапраўдны сын Святла, які праз хрост уступіў у сям'ю дзяцей Божых?

Перадусім трэба памятаць, што наша вера не пярэчыць праўдзівае навуцы, але падтрымлівае яе на шляху прагрэсу. Блаславёны Ян Павел II часта падкрэсліваў, што хрысціянства мае два крылы: веру ды розум, якія ўзаемна дапаўняюцца. Гэты тандэм адсутнічае ва ўсіх псеўдапрарокаў нашага рацыянальнага дваццаць першага стагоддзя. Калі чалавек верыць гараскопам, то аўтаматычна адкідвае Езуса і сваімі чынамі называе яго падманшчыкам. Толькі Езус з'яўляецца абсалютнаю праўдай. Евангеліст Мацвей запісаў словы Збаўцы: "Нават валасы палічаны на вашае галаве, і нічога вам не станецца без волі Айца Нябеснага" (Мц 10,30). Таму калі мы называемся хрысціянамі, то павінны ўсведамляць прысутнасць Божага провіду ў нашым жыцці. Бо толькі ён у спалучэнні з нашаю верай ды малітвай можа прывесці нас да вечнага шчасця ў Небе, а ніяк не бяздушныя касмічныя целы ў сваіх сузор'ях.

**Калі чалавек верыць гараскопам, то аўтаматычна адкідвае Езуса і сваімі чынамі называе яго падманшчыкам.**

Як хрысціянін чалавек нараджаецца падчас хросту. Ён атрымлівае на ўсё сваё жыццё вечны знак Святое Тройцы, але і пасля гэтага не з'яўляецца нявольнікам, ад волі якога нічога не залежыць. Бог праз сваю бясконцую любоў да нас хоча ўсіх прывесці да вечнага шчасця. Але хоча гэта зрабіць як добры пастыр, за якім авечкі ідуць самі, нічога не баючыся.

У апошняе стагоддзе ў краінах былой Расейскай імперыі распаўсюдзіўся, не пабаюся гэтага слова, культ Дзеда Мароза. А ці ведаюць беларусы, каго "ўшаноўваюць"? У хрысціянстве існуе культ Святога Мікалая біскупа, успамін якога ў Каталіцкім Касцёле прыпадае на 6 снежня (паводле юліянскага календара – 19 снежня). Па традыцыі ў гэты дзень адзін мужчына пераапранаецца ў біскупскія шаты ды раздае падарункі дзецям, навучаючы іх святасці ды неабходнасці быць добрымі ў адносінах да сваіх блізкіх.

У Расейскую імперыю гэта традыцыя прыйшла з Еўропы пад канец XIXст, а ўпершыню на афіцыйным узроўні была прадэманстравана ў 1861 годзе пры Аляксандры II. Усё б нічога, калі б расейцы не прыгадалі сабе язычніцкага Марозку, які і замяніў сабою Святога Мікалая, прыняўшы пасля прыходу бальшавікоў савецкае адценне ("аддзяліўся" ад рэлігіі) ды імя Дзед Мароз. Адтуль ён патрапіў у Беларусь.

Беларусы прынялі яго лёгка, бо і культ Святога Мікалая мелі, які таксама даваў падарункі ды і нагадваў старадаўняга зімовага ляснога духа Зюзю. Вось толькі Зюзя ў беларускае міфалогіі – гэта злы дух, які, паводле міфаў, заводзіў людзей да зімовага лесу, каб потым замарозіць, альбо насылаў на вёскі вялікія маразы. Каб задобрыць Зюзю, нашыя продкі пакідалі для яго на ганку куццю ды іншыя калядныя стравы, спадзеючыся на лагодную зіму ды добрае надвор'е. З вышэйсказанага вынікае, што беларусы не толькі прытулілі да сябе чужога персанажа, але і спалучылі яго са сваім дэманам зімы. Хто як, але я хачу ведаць ды шанаваць традыцыі свайго народа, але ніяк не рабіць гібрыдаў, падобных да Зюзі-ДзедаМароза.

Мы ўсе радуемся, калі надходзіць Раство – Дзень нараджэння Езуса Хрыста. Калі нехта ў сям'і святкуе свой дзень нараджэння, то звычайна запрашае ўсіх да сябе, а запрошаныя прыносяць падарункі. Мяркую, маленькі Езус надта будзе задаволены ў свой Дзень нараджэння, калі мы не будзем мець грэху глупства і пачнём усе давяраць толькі Яму, а не ягонаму стварэнню.

### СВ. МІКАЛАЙ У ВАЎКАЛАЦЕ

У нядзелю, 11 снежня, у касцёле Св. Яна Хрысціцеля ў Ваўкалаце адзначалі дзень Святога Мікалая. Пасля св. Імшы была паказаная сцэнка з жыцця Святога Мікалая, якую падрыхтавалі нашы мясцовыя артысты, дарослыя і дзеці. Напрыканцы дзеяння дзеткі – маленькая Анёла Дабра – пачаставалі цукеркамі ўсіх гледачоў. Прысутныя былі вельмі ўзрушаныя і дзякавалі артыстам і а. Тамашу – пробашчу парафіі.

Хочацца выказаць словы падзякі а. Томашу Юньчыку за яго дабрыню і старанне, а таксама вядучай Марыі Кімстач, Надзеі і Вікторыі Кімстач, усім удзельнікам гурта за прыгожыя спевы. Гэта незабыўна.

*Галіна Глушкевіч*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**15 студзеня 2012 г.**
**Ян 1, 35-42**

Ян – добры настаўнік – умее паказаць на Езуса-Збаўцу. Вучні Яна паверылі яго сведчанню і пайшлі за Езусам. Засталіся з Ім, каб пазнаць Яго бліжэй. Потым прывялі да Езуса сваіх братоў. Езус дапамог ім зразумець, кім яны ёсць. Ён гаворыць ім пра іх пакліканне так, як сказаў Пятру.

*– Якіх маю настаўнікаў?*

*– Куды яны вядуць мяне: да Езуса ці да д'ябла?*

*– Ці слухаю я добрых парадаў, добрых настаўнікаў?*

*– Ці хачу паспрабаваць жыць так, як Езус?*

*– Як у мяне гэта атрымліваецца?*

*– Ці вяду братоў да Езуса?*

*– Ці вучуся ад Яго, хто я і што павінен рабіць?*

*– Які я вучань?*

**22 студзеня 2012 г.**
**Мк 1, 14-20**

Езус абвяшчае Евангелле.

1. Кажа, што "настаў час".

2. Вучыць, што наблізілася Валадарства Божае, г.зн., наблізіўся час асаблівай Божай прысутнасці.

3. Кліча да пакаяння, якое адкрывае сэрцы для Бога.

4. Кажа: "Верце ў Добрую навіну!"

Ён паклікаў сваіх вучняў, каб пайшлі "лавіць" людзей. Яны, пакінуўшы ўсё, пайшлі за Ім. Паверылі, што наблізіўся час Божай прысутнасці і трэба пакаяцца і даверыцца Хрыстовай навуцы.

*– Асабіста для мяне ці значыць што-небудзь Евангелле – навука, якую прынёс Езус Хрыстус?*

*– А ў маім жыцці ці настаў час для Бога?*

*– Ці бачу, што Бог хоча выратаваць мяне і даў мне час, каб спаткацца з Ім?*

*– Ці сустракаюся з Ім на малітве?*

*– Ці ў час малітвы праслаўляю прысутнасць Бога ўва мне?*

*– Ці маю час на Святую Імшу, споведзь, разважанне Божага слова?*

*– Ці ёсць у маім жыцці пакаянне?*

*– Ці бачу ў маім жыцці недасканаласць і ці адракаюся ад яе?*

*– Ці веру, што Езус можа штосьці прапанаваць мне?*

*– Ці веру, што ў Яго ёсць рашэнне маіх праблем?*

*– Ці шукаю ў Езуса адказы на свае пытанні?*

*– Ці іду за Ім?*

*– Што Езус хоча, каб я пакінуў?*

*– Чым мне трэба заняцца, на Яго думку?*

**29 студзеня 2012 г.**
**Мк 1, 21-28**

Езус мае ўладу. Ён – Мудрасць, а не настаўнік светапогляду. Божая навука мае моц. Езус уладарыць над злым духам і над светам. Трэба падтрымліваць сяброўства з Езусам, калі хочам зберагчы сябе ад злога духа. Езус дапамажа нам, толькі трэба ісці да Яго. Не варта лезці ў лапы чорта.

*– Ці памятаю, што Езус – мой Пан?*

*– Ці разумею, што Божая навука – гэта не адна са шматлікіх мудрасцей, а Сама Мудрасць?*

*– Ці веру, што ў Божай навуцы ёсць моц?*

*– Ці веру, што Езус большы за д'ябла і ўсіх дэманаў?*

*– Ці памятаю, што Ён – Пан неба і зямлі?*

*– Ці трымаюся за Езуса на жыццёвай дарозе?*

*– А можа, шукаю збаўлення ў д'ябла?*

*– Ці не займаюся магіяй, акультызмам, біяэнергатэрапіяй, варажбой, гараскопамі, амулетамі?*

*– Ці шчыра вызнаю грахі ў гэтай сферы?*

*– Ці свядома штодзённа прамаўляю словы малітвы "збаў нас ад злога"?*

**5 лютага 2012 г.**
**Мк 1, 29-39**

Езус прыйшоў, каб абвяшчаць. Сваімі аздараўленнямі дае знак, што гэта – навука, якая мае моц. І мы, бачачы знакі, звяртаемся да Бога, а не бегаем за цудамі. Знакі дадзеныя для таго, каб паказаць, што збаўленне – у Езусе. Яго Асоба і Яго навука – гэта сапраўдны падарунак з неба.

*– Ці разумею, што хрысціянства – гэта не новы від медыцыны?*

*– Ці шукаю Езуса?*

*– А можа, мяне захапляе толькі Яго моц?*

*– Ці не гляджу на Езуса як на "казачнага чараўніка з палачкайвыручалачкай у руках"?*

*– Ці слухаю Яго навуку?*

*– Ці стараюся жыць паводле Яго волі?*

*– Ці бачу знакі Божых спраў у свеце?*

*– Ці разважаю пра іх?*

*– Ці шукаю ў Езуса сапраўднага вызвалення душы з няволі зла?*

*– Ці цаню навуку Езуса?*

*– Ці "бегаю"за ёй, як хворы за аздараўленнем?*

*– Што раблю, каб лепш спазнаць Божую навуку і жыць паводле яе?*

*– Божае валадарства распачалося! Бог з намі! Ці веру ў гэта?*

**12 лютага 2012 г.**
**Мк 1, 40-45**

Езус можа нас ачысціць. Але ці хочам мы ісці да Яго? Калі дазваляем, каб Езус дакрануўся да нас, то праказа адразу сыходзіць. Езус нас ачышчае, напрыклад, у час споведзі і адразу ацаляе ад шатана. Ён прыносіць ачышчэнне, калі хоча і як хоча, паводле сваёй задумы. Наш лёс у Яго руках.

*– Ці веру, што Езус можа выбавіць мяне з маёй бяды?*

*– Ці паказваю Яму з даверам свае слабасці?*

*– Ці размаўляю з Ім пра свае слабасці, недасканаласці і грахі?*

*– Ці паказваю Яму тое, чаго саромеюся ў самім сабе?*

*– Ці дазваляю Богу змяніць маё жыццё?*

*– Ці прыслухоўваюся да Яго загадаў?*

*– Ці хачу быць аздароўлены паводле свайму ці па-Божаму?*

*– Ці бачу Божыя справы ў маім жыцці і ці разважаю над імі?*

*– Ці ўдзячны Яму за атрыманыя дары?*

*– Ці даю Яму свабоду ў збаўленні мяне самога?*

*– Ці дазваляю, каб Ён змяняў ува мне што хоча, калі хоча і як хоча?*

*– Ці давяраю Яму?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**

# ЖЫЦЬ БОЖАЙ ЛАСКАЙ...



**Свята Божага Нараджэння заўсёды прыносіць радасць людзям. У Мёрах 25 снежня вернікі сабраліся ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, каб падзякаваць Езусу не толькі за збаўленне, але і за новага дыякана Каталіцкага Касцёла і за сакрамант бежмавання.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

У гэты дзень у мёрскай парафіі студэнт Пінскай духоўнай семінарыі Антон Лагунёнак прыняў пасвячэнні дыяканату. Біскуп Уладзіслаў Блін, прамаўляючы да маладога чалавека і да ўсіх прысутных, сказаў: "Касцёлу вельмі не хапае добрых святароў! Маліцеся аб пакліканні! І дзякуйце Богу за тых, каго Ён абраў сабе на службу!"

Св. Імшу з біскупам канцэлебравалі святары Віцебскай дыяцэзіі, а таксама духоўны айцец Пінскай семінарыі а. Аркадзь Куляха OCD. Рэктар клерыкаў Віцебскай дыяцэзіі кс. Андрэй Бульчак прадставіў кандыдата да дыяканату і папрасіў біскупа здзейсніць абрад пасвячэнняў.

Нязменным момантам у пасвячэннях ёсць Літанія да ўсіх святых. Падчас гэтай малітвы Антон Лагунёнак ляжаў крыжам, просячы Бога прыняць яго ахвяру і спасласць Духа Святога. Адной з асноўных задач дыякана ў Каталіцкім Касцёле ёсць абвяшчэнне Божага слова. Менавіта таму біскуп Уладзіслаў сімвалічным жэстам перадаў юнаку Евангелле, перад гэтым прамовіўшы малітву пасвячэння і ўсклаўшы на галаву кандыдата рукі.

Літургічнае адзенне дыякана – гэта стула, перавязаная праз левае плячо, і дальматыка. Таму астатнюю частку літургіі Антон Лагунёнак маліўся ў гэтых шатах.

Сакрамант канфірмацыі прынялі вернікі з Мёраў і іншых мясцовасцяў дыяцэзіі. Пераважна гэта была моладзь. Хлопцы і дзяўчаты вызналі сваю веру перад біскупам і абяцалі яму моцна трымацца запаведзяў і Хрыстовай навукі. Праз словы і рукі іерарха яны атрымалі Духа Святога, які неабходны, каб мужна вызнаваць каталіцкую веру.

У сакрамантах Касцёла дзейнічае сам Бог. Кожны вернік, прымаючы іх, наталяецца Божай ласкай. А яна ў сваю чаргу, як кажа Каталіцкі Катэхізіс, неабходная для збаўлення. Бог не шкадуе сваіх ласк нікому. Не бойцеся і прыйдзіце да Яго! І будзеце шчаслівымі.

## ЗАПРАШАЕМ ДА КОНКУРСУ!

**"Каталіцкі Веснік" сумесна з парталам Catholic.by праводзіць фотаконкурс пад назвай «Мужчыны ў Касцёле: „Мы ёсць!"».**

Часам можна пачуць, як жартаўліва Касцёл у Беларусі называюць «жаноча-каталіцкім». На жаль, часта так і ёсць: жанчын у святынях значна больш, а вось як заахвоціць мужчын, застаецца пытаннем.

Таму запрашаем вас, дарагія нашы чытачы, прыняць удзел у гэтым конкурсе. Не пераблытайце, калі ласка. Здымкі трэба дасылаць у электронным варыянце на сайт каталіцкага партала Catholic.by. Не дасылайце нам здымкаў у рэдакцыю. Усё спаборніцтва і галасаванне праводзіцца толькі ў інтэрнэце. Пераможца конкурсу будзе аб'яўлены ва ўрачыстасць святога Юзафа — **19 сакавіка**.

Больш падрабязныя ўмовы чытайце на партале Catholic.by. Мы абяцаем, што пераможцы атрымаюць прызы ад нашай газеты. Жадаем усім вам удачы і Божага блаславлення!

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"**

## Паважаны ксёндз Віталь Галец!

**Шчыра віншуем Вас з цудоўным святам Божага Нараджэння!**

*Езус Хрыстус прыйшоў на гэтую зямлю, каб прынесці нам святло, надзею і ўпэўненасць, што Пан Бог споўніць свае абяцанні для нас і ачысціць свет ад зла, падману і пакут. У гэтыя дні жадаем Вам асаблівага Божага натхнення і радасці ў служэнні Касцёлу. Няхай Збаўца народзіцца ў Вашым сэрцы, а Бэтлеемская Зорка асвятляе жыццёвы шлях!*

*Хай у Новым годзе здзейсняцца ўсе задумы, планы, праекты і мары!!!*

*Жыхары в. Дзеркаўшчына, парафія Унебаўшэсця Хрыста*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

9 лютага ў сястры Магдалены з Наваполацкага касцёла Св. Сэрца Езуса будзе Дзень нараджэння. Яна вельмі чулая і працавітая. З лагоднай усмешкай на твары яна па праменьчыку раздае нам Божае святло, каб бачылі сцяжынкі да нябёсаў. Гэтымі сцяжынкамі вядзе дзяцей да Божай навукі, ідзе да хворых з малітвай на вуснах, нясе святасць да кожнага чалавека. Мы ўдзячныя Пану Богу, што маем сястру з добрым сэрцам. Віншуем яе такімі словамі:

*Пачуй, Пане, малітвы ў святыні,*
*Табе іх пасылаем да Нябёсаў.*
*Сёння ў нас дзень асаблівы —*
*Благаславення для сястрычкі просім.*
*Дай міласці з далоняў на хвілінкі,*
*Якія яна просіць у маўчанні,*
*Пашлі свае Айцоўскія абдымкі*
*І падтрымай у гэты час спаткання.*
*Умацуй у працы і служэнні,*
*Якое ў Імя Тваё нясе.*
*Усіх нас суцяшае ў цярпенні,*
*Сцяжынкамі Святла Твайго вядзе.*
*О, мілая сястрычка Магдалена!*
*Мы адкрываем сэрцы ўсе свае,*
*Каб рассявала словы з Евангелля,*
*У якіх заўсёды вечны Бог жыве.*

*Часлава Тамашэўская і ўсе парафіяне*



# РОЖДЕСТВЕНСКИЙ ПРАЗДНИК ДЛЯ УЧАСТНИКОВ КЛУБА «БЕТЕЛЬ»

■ **Антонина Полинская**

В 2003 году Каритас-Витебск сделал первый шаг в направлении социальной адаптации и интеграции в общество молодых людей с ограниченными возможностями. На примере польского клуба «Бетель» в Витебске организовалась группа молодых людей с ограничениями, которые хотели совместно проводить время, делиться своими знаниями, умением, опытом. Вначале эта группа была немногочисленной и состояла из 5-7 человек, занятия проходили по 2 часа в день в помещении Каритас.

С каждым годом численность молодых людей с ограниченными возможностями, желающих посещать занятия, возрастала.

И в 2006 году было принято решение открыть Центры дневного пребывания для молодых людей с ограничениями. Цель открытия Центра заключалась в адаптации и интеграции лиц с особенностями психофизического развития в общество, а также создание глубокой взаимосвязи между лицами с ограниченной трудоспособностью, их семьями и друзьями. Чуть позже подобные Центры были открыты в городах Глубокое и Миоры.

На занятиях, которые проходят по 4 часа ежедневно, молодые люди обучаются и изготавливают сувениры из бисера, соломки, глины, вышивают. Участие в обучении и работе молодые люди принимают по мере своих возможностей, вид деятельности выбирают самостоятельно. К Рождеству и Пасхе в Центре изготавливаются открытки и сувениры, которые реализуются в приходах Витебской епархии. В 2010 году в Центре открылся компьютерный класс, где ребята могут получить знания и навыки работы на компьютере, а также провести время за играми. Ежедневная работа в Центре, совместные праздники и дискотеки сделали молодых людей друзьями.

В Каритас Витебской епархии стало уже традицией в канун Рождества организовывать встречи для молодых людей с ограниченными возможностями.

Этот год не стал исключением. Так, 27 декабря в Витебске состоялся Рождественский праздник, на который пришли местные ребята из клуба «Бетель», а также приехали молодые люди из Миор и Глубокого. Некоторые ребята пришли на праздник в маскарадных костюмах. Среди гостей были священники и несколько родителей.

Начался праздник со Святой Мессы, которую отслужил епископ Владислав Блин. Понятное дело, Святая Месса – дело серьёзное, но, учитывая особенности в развитии наших молодых людей, она прошла в доступной для них форме. После Святой Мессы – деление оплатком, в процессе которого все присутствующие желали друг другу мира и добра.

Вторая часть праздника прошла в молодёжном Центре кафедрального собора прихода Иисуса Милосердного. Здесь для гостей был украшен зал с нарядной весёлой ёлкой и накрыты столы с угощениями.

Каждая группа молодых людей из Витебска, Миор и Глубокого подготовила небольшой концерт, а волонтёры развлекали всех конкурсами и весёлыми играми. Всё это проходило под задорную рождественскую и новогоднюю музыку. Скучать не пришлось никому, все танцевали, пели колядки, шутили.

Закончился праздник приездом святого Николая с большим мешком. Поэтому домой никто не ушёл с пустыми руками – все получили сладкие подарки.

***

**Клуб «Бетель» сердечно приглашает в свои общины добровольцев и возможных участников клуба. Вместе мы сможем многое! Протянем друг другу руки! Подробную информацию о деятельности общин клуба можно получить по следующим телефонам:**

**г. Глубокое +375295918280, координатор клуба Ина Войтехович**

**г. Миоры +375295952879, координатор клуба Анна Васькович**

**г. Витебск +375292193922, координатор клуба Антонина Полинская**

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 366

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 13.01.2012 г. у 20.15

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ